№ 159 (1223)
Чацвер, 30 жніўня 2001 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт: у кіёсках і крамах — 100 руб., у індывідуальных гандляроў — свободны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па краіне захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, па Гомельскай і месцамі па Магілёўскай абласцях месцамі дажджы. Вецер паўночны, 5—10 м/с, на ўсходзе парывы да 14 м/с. Тэмпература паветра ў Гомелі — +14...+16, Магілёве — +15...+17, Віцебску, Мінску — +16...+18, Брэсце, Гомелі — +17...+19.

У наступныя двое сутак — воблачна без ападкаў, толькі ўдзень 1-га верасня на паўднёвым захадзе дажджы. Вецер няўстойлівы, слабы. Тэмпература паветра ўначы +3...+8, месцамі на глебе замаразкі да 0...-1, удзень +15...+20.



### ПУЛЬС

## 30 назіральнікаў БДІПЧ

**У беларускі Цэнтрвыбаркам паступіў спіс з першых 30 прадстаўнікоў Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ, якія будуць ажыццяўляць кароткатэрміновае назіранне за прэзідэнцкімі выбарамі. Пра гэта БелаПАН паведаміў прэс-сакратар Цэнтрвыбаркама Валерый Юрэвіч.**

Кароткатэрміновая місія прыбудзе ў Мінск за некалькі дзён да дня асноўнага галасавання — 9 верасня.

Нагадаем, што цяпер у Беларусі ўжо працуе місія доўгатэрміновага абмежаванага назірання за выбарамі БДІПЧ АБСЕ. Па словах кіраўніка місіі Храера Бальяна, кароткатэрміновае назіранне за выбарамі будуць ажыццяўляць каля 150 чалавек.

В.Юрэвіч паведаміў, што бліжэйшым часам ЦВК таксама чакае дакументы на 60 міжнародных назіральнікаў ад еўрапейскай парламенцкай "тройкі" (парламенцкіх асамблей Савета Еўропы, АБСЕ і Еўрапарламента).

Усяго, паведаміў прэс-сакратар ЦВК, на гэты час намер прыняць удзел у назіранні за прэзідэнцкімі выбарамі выказалі больш як 400 назіральнікаў з розных міжнародных арганізацый і краін.

**Юрый ПАЦЁМКІН.**

## Дзяржсакратар ЗША заклікае Беларусь да правядзення свабодных і дэмакратычных выбараў

**Кіраўнік Дзяржаўнага дэпартамента ЗША Колін Паўэл выступіў са зваротам з нагоды 10-годдзя незалежнасці Беларусі. Дзяржсакратар ЗША падкрэслівае, што Злучаныя Штаты гатовыя аднавіць паўнавартасныя стасункі з Беларуссю, калі ў краіне будуць праведзены свабодныя і дэмакратычныя выбары ў адпаведнасці са стандартамі Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе і будуць паважацца правы чалавека і вяршэнства закону.**

Дзеянні Беларусі ў першыя гады незалежнасці — у тым ліку далучэнне да Дагавора аб нераспаўсюджванні ядзернай зброі, вывад з тэрыторыі краіны ядзерных ракет, актыўны ўдзел у праграме НАТО "Партнёрства дзеля міру" і крокі да пабудовы дэмакратычнай сістэмы — выклікалі пазітыўную ацэнку з боку ЗША, піша Колін Паўэл.

"Наша падтрымка Беларусі і яе народа на іх шляху наперад была адлюстравана ў кантактах паміж дзвюма краінамі на найвышэйшым узроўні, у тым ліку ў візіце прэзідэнта Клінтана ў студзені 1994 года", — адзначае ён. Сп. Паўэл нагадвае, што з пачатку 1992 года Беларусь атрымала ад ЗША дапамогу больш чым на 560 мільёнаў долараў, у тым ліку больш чым на 24 мільёны долараў — за апошнія два гады.

"На жаль, пачынаючы з 1996 года беларускія ўлады вырашылі адмовіцца ад пераходу да дэмакратыі і вяршэнства закону", — піша Паўэл. Ён адзначае, што палітыка беларускіх улад у апошнія гады прывяла да пагаршэння эканамічнай сітуацыі, збяднення насельніцтва і пагаршэння стандартаў аховы здароўя. Такая палітыка перашкаджае нармальным двухбаковым адносінам паміж ЗША і Беларуссю, адзначае ён.

Каб аднавіць нармальныя стасункі, Беларусь мусіць прытрымлівацца стандартаў АБСЕ, у тым ліку пры правядзенні выбараў. Калі Беларусь не зробіць неадкладных крокаў у такім кірунку, гэта перашкодзіць развіццю двухбаковых адносін, і беларускія ўлады застануцца адзіным рэжымам-ізгоем у Еўропе, піша Колін Паўэл.

**Алесь АБРАМОВІЧ.**

## Сямён Домаш шпіталізаваны з дыягназам гіпертанічны крыз

**Былы кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Сямён Домаш 27 жніўня шпіталізаваны ў 1-ю клінічную бальніцу Мінска. Па рашэнні ўрачоў Сямён Домаш павінен будзе правесці ў аддзяленні рэанімацыі як мінімум пяць дзён, аднак яго сваякі і супрацоўнікі штаба хочуць перавезці Домаша ў Гродна.**

Як сцвярджаюць яго паплечнікі, палітык раптоўна адчуў сябе кепска адразу пасля запісу выступлення на Беларускім тэлебачанні 20 жніўня, калі выпіў некалькі глыткоў вады са шклянкі, што стаяла на стале перад выступаючым. Ужо праз некалькі гадзін Домаш, паводле яго слоў, адчуў "прыкметы чагосьці пабочнага ў арганізме".

Як паведаміў БелаПАН сакратар Домаша Андрэй Кусельчук, у выбарчы штаб некалькі разоў тэлефанавалі невядомыя, якія папярэджвалі аб распрацоўцы спецслужбамі аперацыі па фізічнай ліквідацыі вядомых беларускіх палітыкаў — апанентаў цяперашняй улады.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## Да выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь засталося 10 дзён


Уладзімір ГАНЧАРЫК - НАШ прэзідэнт


Сямён ДОМАШ - НАШ прэм'ер-міністр

Галасуючы за Ганчарыка, Вы адначасова галасуеце за Домаша, за Казлоўскага, за Чыгіра, за Калякіна, за Марыніча, за Ярашука...

### ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

# Чиновникам не до убийств

*На протяжении уже нескольких месяцев в зарубежной и независимой белорусской прессе появляются ужасающие подробности о похищении известных в Беларуси людей. Сначала — признание следователей прокуратуры Петрушкевича и Случека, потом документы, обнародованные Владимиром Гончариком, в которых речь идет о причастности высших должных лиц государства к похищениям и убийствам Юрия Захаренко, Виктора Гончара и Анатолия Красовского. На днях появился новый компромат — видеокассета с монологом человека, который представился бывшим военнослужащим части спецназа внутренних войск МВД. Называются новые фамилии свидетелей расправы над Виктором Гончаром и Анатолием Красовским.*

*Казалось бы, эта страшная информация должна всколыхнуть каждого здравомыслящего человека и уж тем более тех, кто по долгу службы обязан мгновенно реагировать на любой факт, проливающий свет на небывалые трагедии. Но власти так и не начали разбирательства по поводу обнародованных недавно документов. Именно это и побудило нас задать несколько вопросов представителям правоохранительных структур и парламента.*

### ВОПРОС ПЕРВЫЙ:

**— Какие шаги Вы лично предприняли или собираетесь предпринять для того, чтобы ни один факт, связанный с преступлениями, не был сокрыт от широкой общественности, чтобы правоохранительные органы, государство использовало всё возможное для скорейшего раскрытия "громких дел"?**

### ВОПРОС ВТОРОЙ:

**— Вас не удивляет, что упомянутые в документах Сиваков, Шейман, Павличенко до сих пор не отстранены от занимаемых должностей и не создана независимая комиссия по проверке этих ужасающих фактов?**

**Вот что мы услышали:**

**Федор КОТОВ,**
**руководитель Центра информации и общественных связей КГБ:**

1. — Что Вы имеете в виду? Что касается видеокассеты, она действительно есть. Все, что на ней записано, — это еще не факт.

— *КГБ собирается проводить дополнительное расследование, допросить людей, чьи фамилии упоминаются в этой кассете?*

— Я уже говорил, что эта кассета ничего нового в расследовании по делу исчезновения Гончара и Красовского не вносит. Если мы и будем что-то делать, то в интересах следствия и в интересах тех людей, о которых идет речь, сообщать об этом никому не собираемся. Если у нас появится что-то конкретное, мы сможем представить какие-то конкретные факты, вот тогда и будем об этом говорить.

Пока общее впечатление такое, что кассета внимания не заслуживает.

2. — Если бы в государстве с такой легкостью из-за подметных писем снимались с должностей высшие должностные лица, то мне было бы жаль такую страну.

— *Речь не о том, чтобы их снимали, а на какое-то время, пока идет разбирательство по делу, они были отстранены от занимаемых должностей?*

— Таким образом можно парализовать деятельность всего государственного аппарата. Подметные письма никогда не могут служить основанием для принятия каких-то кадровых решений. Все, что обнародовано, появилось в период острейшей политической борьбы за президентскую власть и это не что иное, как следы пиаровских технологий.

**Григорий ВАСИЛЕВИЧ,**
**председатель Конституционного суда Республики Беларусь:**

1. — Эти вопросы не в нашей компетенции, и повторять чьи-то ошибки мне не хотелось бы. Мы будем работать только в рамках своей компетенции, есть другие органы, которые должны этим заниматься.

— *А Вы лично как председатель Конституционного суда, юрист не хотели бы предпринять какие-то действенные шаги?*

— (Пауза). Личные шаги?.. Мы работаем в рамках наших полномочий...

2. — Я не хотел бы комментировать эти вопросы. Необходимо знать все досконально, почитать определенные материалы, потому что ходит много слухов.

— *Недавно начальник СИЗО №1 Олег Алкаев подтвердил подлинность документов, обнародованных Владимиром Гончариком. Какие могут быть еще большие доказательства?*

— Я из собственного опыта знаю, как в прессе могут приукрасить то или иное событие, преподнести так, что просто удивляешься...

Мы всегда говорим: что касается деятельности Конституционного суда, пожалуйста, приходите, мы дадим пояснения. Что касается ваших вопросов, я не владею полной информацией, это действительно не наша сфера. Хотелось бы, чтобы все в нашем государстве развивалось по закону, в соответствии с правом. И мы стараемся это делать все последние годы. Пять лет, сколько мы работаем новым составом, стремимся честно работать.

**Александр ИВАНОВСКИЙ,**
**заместитель Генерального прокурора Республики Беларусь:**

— Какие-либо комментарии только в случае личной встречи в прокуратуре.

— *Мы можем договориться о встрече прямо сейчас...*

— Сейчас я занят, позвоните, может быть, будет время...

* * *

Данные вопросы я хотела задать и так называемым народным избранникам. Но найти их на рабочем месте оказалось не так просто. У депутатов сейчас каникулы, и они планируют собраться на очередную сессию 3 октября.

В секретариате Палаты представителей мне сказали, что "каникулы в парламенте — это не так, как в школе". Депутаты между сессиями трудятся, как никогда, много и плодотворно. Вот и сейчас многие из них работают в своих избирательных округах, и только незначительная часть парламентариев находится в очередном отпуске.

**Заместитель председателя Палаты представителей Национального собрания Владимир Коноплев** уехал, например, в свой избирательный округ в Шклов. Связь с ним, объяснила мне секретарша Владимира Николаевича, отсутствует. Она бы, конечно, с радостью помогла журналисту, но на нет и суда нет. В искренность ее слов, конечно, никто не поверил. У господина Коноплева всегда под рукой такой современный вид связи, как сотовый телефон...

**С председателем Палаты представителей Вадимом Поповым** связаться тоже не удалось. Секретарша со сноровкой опытного телохранителя оберегала своего шефа от назойливых журналистов.

Не нашлось времени на общение с прессой и у **председателя Совета Республики Александра Войтовича.** Как пояснила его секретарь, лично с пишущей братией Александр Павлович общается исключительно после официального обращения через пресс-центр. Коллеги из пресс-центра отвечали в таком же духе: "В лучшем случае ваши вопросы попадут на стол председателя через пару дней". Как выяснилось, сейчас господин Войтович занят, завтра будет присутствовать на республиканском мероприятии, а затем — на международной конференции. Одним словом, не до пропаж и убийств нынче председателю Совета Республики.

Не удалось застать на рабочем месте и **члена комиссии по законодательству и судебно-правовым вопросам Палаты представителей Ольгу Абрамову.** Ссылаясь на занятость, но не отказываясь пообщаться с журналистом попозже, не ответил на наши вопросы и **Николай Чергинец, председатель комиссии по международным делам и национальной безопасности Совета Республики Национального собрания Республики Беларусь.**

Судя по ответам, которые все-таки удалось получить, и ссылки "на занятость" нынешних белорусских парламентариев, никакая специальная независимая комиссия создана не будет. И никакой дополнительной проверки фактов, рассказанных неизвестным на кассете, попавшей журналистам, а позже в КГБ и Прокуратуру, проводиться тоже не будет. В другом случае не только Котову, Василевичу и Ивановскому было бы что сказать народу.

Впрочем, не напрашивается ли здесь и другой вывод — элементарная **трусость** мешает высоким чиновникам занять принципиальную гражданскую позицию и бить во все колокола: в стране беда! Что ж, они пока не пропали. И их дети тоже. Вот, не дай Бог, пропадет кто-либо из близких у господина Василевича, вот тогда мы услышим его голос...

**Мария ЭЙСМОНТ.**

**P.S.** *Когда материал был подготовлен к печати, белорусские независимые издания, а также аккредитованные в нашей стране российские телеканалы получили новую видеокассету с очередным сенсационным признанием. Сотрудник КГБ Геннадий Угляница и активист организации "Край" Андрей Жерносек подтвердили информацию о причастности к похищению и убийству Виктора Гончара и Анатолия Красовского высших должных лиц государства. Власти поспешили назвать появление этой кассеты очередной провокацией накануне президентских выборов.*

## Арыштаваны тыраж спецвыпуску газеты "Рабочы"

**Рэдакцыя разлічвала выдаць спецвыпуск тыражом 400 тысяч экземпляраў і аплаціла паслугі друкарні "Мэджык" па выпуску менавіта такой колькасці газет. Вечарам 27 жніўня, калі частка тыражу ў 40 тысяч экземпляраў была надрукавана, часова прызначаны выконваючым абавязкі дырэктара друкарні "Мэджык" Уладзімір Глушакоў, які з'яўляецца намеснікам старшыні Дзяржкамдруку, распарадзіўся спыніць друкаванне, спасылаючыся на тое, што не зроблена перадаплата.**

Калі раніцай 28 жніўня перадаплата была зроблена і рэдактар газеты Віктар Івашкевіч вырашыў забраць ужо надрукаваную частку тыражу з друкарні, часовы кіраўнік выдавецтва павёў сябе, паводле слоў Івашкевіча, абсурдна. Ён адмовіўся выдаць надрукаваны і ўжо аплачаны тыраж, заявіўшы, што можна забраць толькі ўсе 400 тысяч экземпляраў.

Івашкевіч пачаў настойваць. У друкарню прыбылі супрацоўнікі пракуратуры Першамайскага раёна Мінска. Яны заявілі, што па факце публікацыі ў спецвыпуску "Рабочага" артыкула "Злодзей павінен сядзець у турме" (аб гаспадарча-фінансавай дзейнасці Аляксандра Лукашэнкі і яго Адміністрацыі), узбуджана крымінальная справа па арт. 367, ч. 2 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (паклёп у адносінах да прэзідэнта Рэспублікі Беларусь).

Супрацоўнікі пракуратуры канфіскавалі ўвесь выпуск у якасці рэчавага доказу. Рэдактару газеты Віктару Івашкевічу, некалькім кіраўнікам друкарні выпісаны позвы ў пракуратуру ў якасці сведак па справе. У гэтым жа нумары спецвыпуску былі апублікаваны тэзісы праграмы кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Ганчарыка, а таксама інтэрв'ю з Сямёнам Домашам.

**Генадзь БАРБАРЫЧ.**

## Чэмпіёны па трак-трыялу

**Экіпаж каманды Беларускага спартыўнага таварыства "МАЗ-Яравіт" у складзе Пятра Орсіка і Дзмітрыя Кнігі другі год запар становіцца чэмпіёнам Еўропы па трак-трыялу.**

У катэгорыі S4 менавіта апошні этап стаў вызначальным у барацьбе за чэмпіёнскі тытул. Па словах спецыялістаў каманды, два экіпажы "МАЗ-Яравіт" і аўстрыйцы на аўтамашыне "Штайр" у выпадку перамогі ў Чэхіі вырашалі б на сваю карысць пытанне аб першым месцы ў агульным заліку. Аднак у выніку беларусы ўжо ў другой па ліку секцыі этапа практычна пазбавілі аўстрыйцаў шансаў на поспех.

Варта адзначыць, што яшчэ адзін экіпаж каманды "МАЗ-Яравіт" у складзе Віктара Маскоўскіх і Андрэя Рудніцкага выступаў у катэгорыі S3 і аформіў званне віцэ-чэмпіёнаў Еўропы на перадапошнім этапе ў Германіі. Першае месца, таксама яшчэ ў Германіі, забяспечылі сабе немцы на аўтамашыне "Унімог".

**Аляксей АРЭШКА.**

# ЗА НОВУЮ БЕЛАРУСЬ!



*Недавно состоялось учредительное собрание Республиканского общественного объединения "За новую Беларусь". За несколько месяцев, прошедших со времени первого организационного мероприятия этого объединения, его деятельность приобрела широкую известность. Сегодня своим пониманием идеологии нового движения делится с читателями "Народной воли" один из его организаторов, заместитель председателя общественного объединения "За новую Беларусь", известный философ, социолог и политолог* ***Вячеслав ОРГИШ.***

### Наша философия

Учреждение республиканского общественного объединения "За новую Беларусь" — событие знаковое. Это будет общественная, а не политическая организация. Однако все мы прекрасно отдаем себе отчет в том, что сегодня невозможно успешно решить ни одну общественную проблему, не обращаясь к нашим политическим реалиям. Именно поэтому надо, хотя бы в самом общем виде, уяснить наше политическое видение жизни.

Наша философия стремится продемонстрировать всем общественным и политическим силам страны, что объединяющего нас гораздо больше, чем разъединяющего. Наши белорусские ценности имеют европейскую природу. Они понятны и желанны абсолютному большинству белорусских граждан. А потому общественным и политическим организациям разумно концентрироваться не на различиях, а на поиске общих национальных решений.

На этом пути союзниками могут и должны стать граждане разных убеждений. Левые, правые, центристы способны и обязаны сплотиться перед лицом общей национальной угрозы. Мы говорим "нет" только крайним политическим проявлениям, экстремизму. Сегодня в одиночку дать достойные ответы на вызовы времени старая политическая гвардия не может. Нужны совокупные усилия всех политически активных гражданских слоев, начиная от работника в поле, за станком, за столом и кончая так называемым номенклатурным работником. Ибо все они устали от безобразий белорусского режима, все созрели для борьбы с ним. Это главное.

За последнее десятилетие политически недальновидные деятели, а также злопыхатели Беларуси много сделали для того, чтобы представить ее демократическую общественность, национально ориентированные политические организации в образе этакого местечкового монстра, который кусает всех и вся, в особенности восточную соседку.

Это не соответствует действительности, если говорить об основных политических элитах, о белорусском народе. Белорусы ценят и уважают Россию, ее великую культуру. Большинство белорусских граждан за то, чтобы быть вместе с ней. Но это большинство также ясно понимает, что исторический путь Беларуси лежит в Европу, а не в Азию. Поэтому большинство белорусов готово двигаться вместе с русским народом, они даже готовы возглавить маршевую колонну, но только в западном направлении. Агитируя за новую Беларусь, мы имеем в виду, что идея помощи, содействия России в ее поиске места в европейском мире может сделаться существенным моментом в формировании новой идеологии национальной жизни белорусов.

При этом мы твердо убеждены, что Беларусь не "транзитный коридор" между Россией и Западом, не разменная монета в геополитических играх. Она суверенная государственная величина, которой вместе со строительством национального дома предстоит возрождать западноевропейские навыки своей политической культуры и делиться этими навыками с восточной соседкой.

Формулируя нашу философию современной белорусской истории, мы можем сказать: наша страна — восточный предел западноевропейской цивилизации. Однако этот предел с помощью белорусов может быть отнесен еще дальше на восток, то есть восточные российские границы могут стать пределом европейского духа. Это цивилизационная работа может стать исторической миссией белорусского народа.

Итак, наш девиз во внутренней и внешней политике гласит: "Опираться на объединяющие европейские ценности, а не искать непреодолимых различий".

Гражданская позиция общественного объединения "За новую Беларусь" созвучна многим программным идеям ряда действующих в стране общественных и политических организаций, придерживающихся европейских политических традиций. Ее концептуальные подходы учитывают особенности социально-экономического и политического развития Беларуси. В них предлагаются меры по реформированию белорусского социума, с тем чтобы придать общественной практике белорусского народа направление, ведущее к формированию в стране открытого гражданского общества.

*(Окончание на 3-й стр.)*

## Радзім Гарэцкі — канадскі шпіён?

**Менавіта такі намёк прагучаў у рэпартажы БТ.**

Адзін з маладых людзей, які прадстаў на відэаплёнцы, распаўсюджанай днямі ў незалежных і расійскіх сродках масавай інфармацыі, сапраўды зяць вядомага акадэміка Беларусі Радзіма Гарэцкага.

Генадзь Угляніца жанаты на прыёмнай дачцэ вучонага — Інесе. Апошнія паўтара года, калі ў сям'і Угляніцы нарадзілася дачка, яны пераехалі жыць да Гарэцкіх. Між іншым, аб гэтым ужо на другі дзень пасля з'яўлення сенсацыйнай касеты паведаміў сам Радзім Гаўрылавіч.

Акадэмік быў здзіўлены, што супрацоўнікі КДБ быццам бы не пазналі Генадзя і спрабавалі падставіць пад сумненне, што чалавек на касеце — следчы КДБ Генадзь Угляніца. Зразумела, гэта рабілася дзеля таго, каб у чарговы раз спісаць з'яўленне непрыемнай для ўлады інфармацыі ў разрад передвыбарнага піяра.

Знакаміты вучоны прызнаўся, што для яго, як і для ўсёй сям'і, заява Генадзя стала поўнай нечаканасцю. З хатніх ніхто не ведаў, што ён збіраецца выступіць з такой інфармацыяй. "Дома тэму палітыкі мы не абмяркоўвалі, — сказаў Радзім Гарэцкі. — Апошні раз я бачыў Генадзя тыдзень таму. Дачка бачыла яго ў нядзелю. У мяне няма падстаў не верыць яму. Генадзь — сур'ёзны, сумленны і станоўчы чалавек. Яго паважалі і калегі па працы. Думаю, што яму нялёгка даўся такі ўчынак".

Дзе зараз знаходзіцца Угляніца, Радзіму Гарэцкаму невядома. Жонка Генадзя Інесса таксама не можа дакладна сказаць, дзе яе муж. Яна спадзяецца, што з ім нічога страшнага не здарылася.

Аднак журналісты Беларускага тэлебачання паспяшаліся ў сваяцкіх адносінах Угляніцы і Гарэцкага разгледзець нейкі тайны сэнс. І быццам бы між іншым у чарговым выпуску АТН паведамілі, што Радзім Гарэцкі — член сойму БНФ, з 1944 года мае сувязі з Канадай. Астатняе, напэўна, гледачы павінны былі дадумаць самі: калі член БНФ, значыць, усё робіцца спецыяльна супраць Лукашэнкі, і, маўляў, з'явіцца ваш Угляніца ў хуткім часе ў Канадзе.

На самай справе Радзім Гарэцкі ніколі не з'яўляўся не толькі членам Сойму, але і партыі БНФ. На пачатку 90-х ён быў кансультантам ценявога кабінета, які ўзначальваў Заблоцкі.

Калі АТНшчыкі не ведаюць або нешта "памылкова" пераблыталі, дазволю сабе нагадаць ім, што выдатны беларускі вучоны акадэмік Радзім Гарэцкі восем гадоў, з 1993-га па 2001-ы, быў прэзідэнтам Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". У 1944 годзе Радзіму Гаўрылавічу было толькі 16 гадоў, ён жыў ва Удмурціі. Канаду наведваў аднойчы, у 1994 годзе. Прыязджаў туды па запрашэнні на з'езд беларусаў Паўночнай Амерыкі. "Сяброў ці добрых знаёмых ў Канадзе я ніколі не меў. і што хацелі сказаць журналісты АТН, мне не зразумела", — адзначыў Радзім Гарэцкі.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

## БЕЛОРУСЫ МЕЖДУ НЕБОМ И ЗЕМЛЕЙ

*ХРОНИКИ АНАТОЛИЯ КОЗЛОВИЧА*

# 13. БРЕСТСКАЯ КРЕПОСТЬ



Вход в Брестскую крепость представляет собой изломанную звездную дыру в бетонной глыбе. Гигант протолкнул перед собой пятиконечную звезду. Он ломился лбом, на голове была фуражка со звездой, а звезда была красной, советской. Пока вы шагаете сквозь пролом, Левитан объявляет о нападении фашистов на СССР, из бетона гремит: "Вставай, страна огромная! Вставай на смертный бой!".

Невозможно не похолодеть душой, не посуроветь сердцем и лицом. Входящие в крепость-мемориал мужчины, женщины, дети по красному асфальту шагают в ритме священной войны. Если бы в этот миг дитя глянуло в мамины глаза, оно закричало бы от испуга. Слава Богу, внимание детей отвлекает тридцатипятиметровый лик того гиганта, что проломил вам путь. Он без фуражки и звезды. Он — барельефный отросток скалы, суровый взгляд его направлен внутрь себя.

Воин свое свершил. Рядом стоит его стометровый штык-обелиск из титана. Штык обезображен рыжими потеками, наводящими вас на мысль, что он когда-то проржавеет, рухнет. Не о том ли дума воина-гиганта, перед взором которого невечный штык? Если бы ему удалось повернуть голову, он посветлел бы ликом. Он увидел бы небесное свечение, уже привлекшее внимание современников. Они поглядывали туда, когда из уважения пытались уловить взгляд воина, когда букашками лепились у штыка. Они почувствовали облегчение в душе, когда экскурсионное дитя, до донышка искреннее, настойчиво потянуло маму туда, где сияло небо. Там золотился купол Николаевской церкви, освящая Брестскую крепость новым светом и новым смыслом.

***

Моя деревня Горск стоит при шоссе Брест—Москва. До Бреста 85 километров, до Москвы — 970. Летом солнце всходит прямо над дорогой, указывая прямой путь на восток. 23 июня 1941 года, на второй день войны, по шоссе прошли первые мотоколонны гитлеровцев. Вслед за ними по придорожным лесам бежали отступающие красноармейцы, некоторые были в кальсонах. Группка завернула в Горск. Солдатики попросили еды. Сообщили, что они из Брестской крепости. Подкрепившись, направились к дороге. Над ней низко летел немецкий самолет, строчил из пулемета. При шоссе солдатики и полегли навечно, пробежав из крепости на восток 85 километров. Где упали, там их мои земляки похоронили. После войны останки перенесли в братскую могилу в деревне Подкраичи.

Брестская крепость до 1954 года ассоциировалась у односельчан и, следовательно, у моего послевоенного поколения — с красноармейцами в кальсонах. Я помню, как полдеревни собиралось в нашей хате, чтобы по батарейному радиоприемнику "Партизан" послушать рассказы писателя Смирнова о защите Брестской крепости. Десять лет народ не знал, что не все солдаты бежали из крепости. Школьники рвались в крепость на экскурсию. Поездка на автобусе всем классом стоила каждому один рубль. Родители мялись, так как один рубль составлял солидную часть семейного бюджета. Мой класс прорвался в крепость в начале шестидесятых.

В крепости работал музей (открыт в 1956-м), мы пробежали его, устремились на развалины. Заглядывали в подвалы и дыры, если они не были закрыты решетками, досками, свежей кладкой. Высшей точкой нам показались руины здания с пустыми глазницами стрельчатых окон, расположенных в три ряда. Высоко, а забраться легко. Здание потонуло в куче обломков, по ним удобно карабкаться. Крыша зияла черными провалами, на их берегу зеленели березки. Маленькя табличка извещала, что в разрушенном здании до войны размещался клуб 84-го полка. Ни слова, что это Николаевская церковь.

***

6 июня 1833 года на западе Российской империи, в городе Брест-Литовск, начались грандиозные земляные работы с целью возведения крупнейшей крепости. Древний город перенесли на три километра на восток, многовековой культурный слой изрыли каналами и котлованами. Через три года был заложен первый камень в оборонительные сооружения. 26 апреля 1842 года Брестская крепость встала на боевую службу как крепость первого класса.

Центральное укрепление (Цитадель) располагалось на острове, было окружено водой, валом, замкнутой пятиугольной оборонительной двухэтажной казармой. Ее длина 1,8 километра, в ней оборудовали 500 подземных казематов, способных разместить 12 тысяч солдат с запасом оружия, боеприпасов, продовольствия. Наружние двухметровые стены казармы оборудовали амбразурами, позволяющими стрелять по врагу из ружей и пушек. Из окон казармы, выходящих внутрь Цитадели, виднелись три золотистых полушара гарнизонного Свято-Николаевского собора, возведенного в 1856—1879 годах. Массивный храм поставили на самом высоком месте, в центре Цитадели. Он доминировал над прочими сооружениями, композиционно связывал их.

К первой мировой войне крепость капитально реконструировали. Однако сдали немцам без боя. Так решило Верховное командование русской армии. С 15 августа 1915 года до конца войны в Брестской крепости дислоцировались германские части.

В 1921 году, по Рижскому договору, Западную Белоруссию заняла Польша. Разместив в Брестской крепости свое войско, поляки переделали церковь в костел. Вскоре после начала второй мировой войны, 17 сентября 1939 года, гитлеровцы четырехдневным штурмом отбили крепость у поляков. 22 сентября победители мирно пропустили в крепость части Красной армии.

Гитлер и Сталин тайно поделили мир. Германские и советские войска провели в Брестской крепости совместный парад и разошлись по европейской линии, начерченной секретным протоколом двух великих фашистов XX века. Заселив крепость, сталинисты переоборудовали костел в клуб. Устроили сцену, кинобудку, зал для танцев и собраний, комнаты для кружков и художественной самодеятельности. Стены обвешали кумачовыми лозунгами, выдержками из речей Вождя и Устава, фотографиями отличников боевой и политической подготовки. Изгнали Божий дух. Выбросили на свалку истории религиозный "опиум".

***

В 1941-м, в первый же день войны 22 июня, к 9 часам утра, фашисты окружили крепость, штурмовые отряды прорвались в Цитадель, захватили здание клуба. Профессионалы действовали со знанием дела и местности, в высшей точке крепости, в клубе, расположились вражеские корректировщики, наводили артиллерию и авиацию точно на цели. Из окон клуба фашистские пулеметы непрерывно обстреливали тыльную сторону казармы, разобщая оборонцев.

С боем наши очистили клуб на второй день. Но враг вновь завладел выгодным объектом. Клуб стал одним из центров разрозненной обороны, не раз переходил из рук в руки. Над ним пикировали самолеты, сбрасывая тяжелые бомбы. По нему били снаряды. Подступы к зданию были завалены трупами захватчиков и защитников, которые недавно проводили здесь совместный парад. В Бресте, на крышах зданий, сидели немецкие офицеры, наводили бинокли на высшую отметку крепости, на клуб. Ожидали, что над ним появится белый флаг. Не дождались. Пора послушать рассказ Сергея Смирнова:

"В этом клубе, на площадке, где находилась будка киномеханика, на штукатурке была выцарапана надпись: "Нас было трое москвичей — Иванов, Степанчиков, Жунтяев, которые обороняли эту церковь, и мы дали клятву: умрем, но не уйдем отсюда. Июль. 1941".

После войны в крепости обнаружено несколько прощальных надписей — свидетельств о героизме защитников, а приведенная — невероятна. Трое красноармейцев сообщили потомкам, что обороняли ЦЕРКОВЬ. Не клуб, но церковь. Вот что невероятно. Превращая церкви в склады, в клубы, в конюшни, в ничто, большевики не ставили рядом с убиенными храмами памятных табличек. С Николаевской церкви убрали купола, уничтожили звонницу, перепланировали внутренние помещения, очистили потолок от религиозных сюжетов. Ничто не говорило коммунистам и комсомольцам, что они находятся в Николаевской церкви.

Довоенный гарнизон не имел здания "церковь", не произносил слова "церковь", не знал понятия "церковь". Командование игнорировало прочный тактико-оборонительный объект "церковь". В клубе не было создано боевых мест, отсутствовали боеприпасы. Командиры и политруки готовились только наступать, а не обороняться.

Бой за клуб как за военный объект навязал противник. Трое москвичей жизнями расплатились за непрофессионализм командиров, вызубривших шапкозакидательскую тактику и богохульную стратегию. В свои последние минуты красноармейцы-атеисты вспомнили, что ЗАЩИЩАЮТ ЦЕРКОВЬ. Почувствовали необходимость умереть в церкви, но не в клубе. Надеялись, что храм как обитель души перенесет их в вечность. Мы не знаем, что они говорили друг другу. Но ЦЕРКОВЬ в их разговор пришла наверняка. ЦЕРКОВЬ послана нам как духовный пароль. К сожалению, полвека мы не могли вспомнить отзыв.

***

25 сентября 1971 года открыт мемориальный комплекс "Брестская крепость-Герой". Оглушенный в звездном проломе хоровой песней "пусть ярость благородная вскипает, как волна, идет война народная, священная война", посетитель в поисках душевного равновесия поднимал очи к небу и видел воинственный штык. Мемориал исполнял порученную ему роль: эмоционально возвращал современника в недавнее прошлое, поднимал боевой дух, отвлекал от проблем, каковые наваливались все тяжелее и выше. Выше помпезного штыка.

Я облазил крепость мальчишкой, обследовал мужем. Чуток отойдешь от холодного штыка, окунешься в жизнь. Течет зеленоватый Западный Буг. В плакучих ивах поют птицы. Перевариваются в гумус листья и кирпичи. Колючая проволока делит землю на прямоугольники. За проволокой цветет картошка. Женщина ковыряется на грядке.

На огородах Брестской крепости идет народная война за выживание. Победители перековали штыки на тяпки. Стоявшие против кровавого фашизма продолжают стоять против голодного социализма. Рядом с ними встали дети, внуки, правнуки. Униженные и оскорбленные, они теряют душевные силы. На крепостной грядке догорают народные надежды на достойную жизнь.

Чтобы зажечь народ, его ведут на площадь Церемониалов, ставят под штык. Здесь президент, озабоченный социализмом, напоминает, что мы когда-то победили. Убеждает, что победим и впредь. Призывает гордых славян сплотиться против звериного Запада. Угрожает наглому НАТО, которому никогда не взять героической крепости, показавшей стойкость советского общества. Здесь белорусские и российские депутаты восстановили гимн СССР и готовы вновь опустить железный занавес, поделить Европу и мир. В Бресте политики "союзного государства" подпитывают милитаристское либидо, ибо в политических арсеналах всегда присутствует война. В центре Европы встает зловещий символ противостояния — Брестская крепость.

Крепость выдернули из истории и поставили на службу ненависти. Поэтому заброшенным холмом покоилась в сердце Цитадели Николаевская церковь.

***

Я каждый год бываю в крепости, приезжая на родину. В 1996-м не поверил своим глазам, когда увидел открытой отремонтированную дверь церкви. Я вошел. Почувствовал высоту над собой. Вместо иконостаса натянута маскировочная сеть. У нее стоял скромный столик, на нем горела свечка. Маленькое пламя шаталось. По церкви гулял сквозняк, видимо, не все дыры были заделаны.

У искореженной стены женщина продавала свечки, иконки, брошюрки, крестики. Я купил свечки. По количеству родных душ, унесенных войной. Зажег от горевшей на столике. Стоял и смотрел в вечные огоньки моего рода. Вот дядья Дмитрий и Василий, мальчишками они подорвались на мине. Вот двоюродный дед Василий, погибший на фронте. Вот отец и мать, они на три года вывезены в Германию, погубили там здоровье, рано ушли от меня, не увидели нормальной жизни.

Ко мне подошла женщина, торгующая у стены. Сказала, что мало кто знает, что церковь открыта. Люди привыкли, что церкви в крепости нет. А без церкви сюда мало кто ходит. Брестская епархия решилась восстановить храм. Он будет таким, как на макете.

Макет стоял в углу. Сияли три полусферических купола, центральный — высокий, широкий, боковые — поменьше. "Если засветится небо, — женщина подняла глаза на потолок, где дыры от куполов были зашиты досками, — то люди увидят и придут. А чтобы засветилось, надо пятьсот долларов. Столько стоит позолота одного купола. Сейчас батюшка ищет спонсора. А ящичек для пожертвований стоит во дворе. Видели?" Да, я положил туда, сколько мог.

Новое небо над Брестской крепостью я увидел летом 1999 года. Свежим золотом восстал центральный купол Николаевской церкви. Бегло осмотрев мемориальный комплекс, редкие туристы спешили туда, где светились небеса. Церковь, не включенная в экспозицию по идеологическим соображениям, вопреки воле авторов мемориального комплекса сделалась центром внимания.

Настоятель церкви отец Игорь знал, с чего начать. Внутреннего убранства и культовой утвари Бог еще не послал, собранные средства расходовались на купола. Церковный купол органично соединяется с небом, с вашим будущим, а посему гасит ненависть, которая вскипает, как волна, в звездном проломе.

Увы, от милосердного света навечно отвернулся воин-гигант, похожий и на Иванова, и на Степанчикова, и на Жунтяева. Его застали мертвого. Нарушили его последнюю волю. Воскреснув скалой, он не посмел бы возвыситься над храмом, который оборонял. Он не простил бы политическим приватизаторам Победы, которые даже не включили Николаевскую церковь в многотомный "Свод памятников истории и культуры Беларуси", определив ей разрушение, забвение, пыль.

С восстановлением Николаевской церкви должна закончиться Великая Отечественная война. В Брестской крепости она началась, здесь ей и конец. Брестская крепость продемонстрировала не крепость общественного строя, а крепость души. Более надежного защитника души, нежели храм, человек не нашел и не найдет, ибо невозможно.

Пусть в звездном проломе звучит церковный звон. Пусть ярость благородная не передается от мамы к ребенку. Пусть бегут неуклюже пешеходы по лужам, и пусть воину-гиганту играет на гармошке добрый Западно-Бугский крокодил.

**В июне 2001 года Брестскую крепость посетили в паре глава РПЦ патриарх Алексий II и президент Беларуси Александр Лукашенко. Их приезд был приурочен к 60-летию начала Великой Отечественной войны. Казалось бы, в восстановленном храме богоугодны и целесообразны лишь молитва о погибших воинах, мольба о мире. Увы, два высоких должностных лица, духовное и светское, на виду золотых церковных куполов политическим дуплетом выстрелили в многочисленных врагов славянства, православия, "союзного государства", а именно: католиков, протестантов, НАТО, мирового капитализм, внутреннюю оппозицию...**

**Брестская крепость — на службе ненависти.**

Фото IREX/ProMedia.

## Крадуць у дзяцей

*Добрый день, уважаемая редакция газеты "Народная воля".*

*Обращается к вам главный контролер-ревизор по Березинскому району КРУ МФ РБ по Минской области Валентина Павловна Любецкая.*

*Высылаю на адрес вашей газеты материал проверки оздоровительного лагеря "Папараць-кветка", который находится в Березинском районе. Материал этот готовился для березинской районной газеты "Сцяг Леніна", однако почему-то застрял в ящике стола заместителя председателя райисполкома Анатолия Николаевича Зябко. Вероятно, благополучие чиновников райпо для него гораздо дороже благополучия детей.*

*Я пробовала напечатать материал и в "Минской правде". Однако мне и там дали понять, что нельзя критиковать чиновников, пусть лучше страдают дети.*

*Сейчас направляю этот материал в ваш адрес в надежде, что газета "Народная воля" является бескомпромиссной и действительно защищает интересы простых людей, а не чиновников.*

*Очень надеюсь, что вы поместите этот материал.*

## Колькі можна зэканоміць на дзіцячым харчаванні?

**У народзе трапна прыкмечана, што і пры невялікай зарплаце повар выглядае добра. Не хочацца крыўдзіць усіх повараў, але, думаю, тыя, хто працуе ў аздараўленчым лагеры "Папараць-кветка" Бярэзінскага раёна Мінскай вобласці, сапраўды павінны выглядаць добра. Мяркуйце самі.**

Поўны кошт пуцёўкі ў "Папараць-кветку" на адну змену складае 111 тысяч рублёў. У каштарысе расходаў на харчаванне закладзена 2160 рублёў на адно дзіця ў дзень. Нямногія сем'і могуць дазволіць сабе такія выдаткі на харчаванне ўласнага дзіцяці ў паўсядзённым жыцці. Але размова ідзе пра аздараўленне, і дзяржава паклапацілася, каб хоць на некалькі тыдняў стварыць усе ўмовы, якія спрыялі б умацаванню здароўя. Дарэчы, 2160 рублёў — гэта сума без усялякіх гандлёвых накрутак, таму, мяркую, пад'есці можна добра. Як высветлілася, не толькі дзецям.

Фінансавым аддзелам Бярэзінскага райвыканкама сёлета 10 ліпеня была праведзена праверка выкарыстання сродкаў на харчаванне ў аздараўленчым лагеры "Папараць-кветка". Сам лагер знаходзіцца на балансе раённага аддзела адукацыі, а харчаванне забяспечвае аб'яднанне прадпрыемстваў грамадскага харчавання райпо. Сёлета ў "Папараць-кветцы" запланавана аздараўленне 728 дзяцей. У першую змену тут адпачывала 240 дзяцей, на другой змене знаходзілася 247.

Колькі можна зэканоміць у дзень на дзіцячым харчаванні? Шчыра кажучы, не ведаю, бо правяралі толькі стравы, прыгатаваныя на абед. Аднак, мяркуючы па абедзеннай эканоміі, пры пяціразовым харчаванні сума атрымліваецца даволі значная. Так, пры ўзважванні порцый прыгатаваных на абед страў выявіўся наступны недахоп:

— суп гарохавы з мясам — 7,9 кілаграма, або 26,3 порцыі;

— каўбаса дамашняя смажаная — 5,18 кілаграма, або 56,9 порцыі (!);

— каша ячная — 4,25 кілаграма, або 28,3 порцыі;

— салат са свежых агуркоў — 0,34 кілаграма, або 3,6 порцыі.

Калі гаварыць пра недахоп з пункту гледжання грошай, то ён склаў... 37,9 тысячы рублёў. І гэта толькі за адзін абед і за адзін дзень.

Ці можа быць смачным харчаванне ў грамадскай сталоўцы? На гэтае пытанне адказаць няпроста, бо наўрад ці зможам мы паспытаць стравы, дзе ўсё закладзена па норме, дзе кожная калорыя на месцы. Напрыклад, для повараў аздараўленчага лагера "Папараць-кветка" падобнае недакладанне стала, як бачна, трывалай звычкай. Сумняваецеся? Літаральна праз пяць дзён, 15 ліпеня, была праведзена яшчэ адна праверка. На гэты раз таксама выявіўся недахоп страў:

— супу малочнага прасянога — 13,25 кілаграма, або 53 порцыі;

— салату са свежай агароднiны — 1,1 кілаграма, або 11 порцый;

— кашы рысавай — 0,95 кілаграма, або 6,3 порцыі;

— сардэлек адвараных — 4,26 кілаграма, або 45,3 порцыі;

— таматнага соку — 6,04 кілаграма, або 30,2 порцыі.

Агульная сума недахопу склала 15,3 тысячы рублёў. Аднак гэта яшчэ не ўсе выяўленыя парушэнні. Адміністрацыя аздараўленчага лагера не паведаміла на кухню пра змяненні фактычнай колькасці дзяцей, улічваючы, што некаторых бацькі забралі на выхадныя дамоў. Так, 15 ліпеня фактычна ў час абеду прысутнічалі 183 чалавекі, а, згодна з меню, — усе 247. Такім чынам са склада было атрымана прадуктаў значна больш, чым патрабавалася. Кошт прыгатаваных страў на тую колькасць дзяцей, якія адсутнічалі, складае 62,3 тысячы рублёў. Як высветлілася з бацькоўскіх распісак, што знаходзіліся ў выхавальнікаў, не ўсе дзеці былі ў лагеры і ў суботу, 14 ліпеня, аднак ніякія змены ў меню і ў гэты дзень не былі ўнесены.

У час праверкі 15 ліпеня ў гардэробе работнікаў кухні знаходзіліся прадукты, якія, згодна з меню, у гэты дзень выдаваліся са склада для прыгатавання ежы, у тым ліку: сардэлькі — 2,79 кілаграма, масла сметанковае — 0,32 кілаграма; памідоры свежыя — 0,93 кілаграма, агуркі свежыя — 0,57 кілаграма. Можа, іх пакінулі для дзетак на больш позні час дня? Як сведчаць тлумачальныя запіскі, пра тых дзетак, што знаходзіліся на аздараўленні ў лагеры, прыхоўваючы прадукты, ніхто і не думаў. С.В.Касцяневіч, напрыклад, "пакінуў 2,250 кілаграма сардэлек на ўсялякі выпадак для сябе і сям'і". Для сябе ўзяла 320 грамаў масла сметанковага, 930 грамаў памідораў і 570 грамаў агуркоў і С.А.Маркевіч, "так як няма грошай і няма на што жыць". Сёння ў многіх не хапае грошай, але не ўсім пашчасціла працаваць у "Папараць-кветцы". Не ўсім пашчасціла за дзяржаўны кошт, за кошт чужых дзяцей карміць уласную сям'ю. І, думаю, значна лепш прыгатаванымі стравамі.

Н.А.Драздоўская, відаць, спадзявалася, што правяраючыя дрэнна ведаюць тэхналогію прыгатавання ежы, таму недахоп малочнага супу растлумачыла тым, што ён не быў даведзены да гатоўнасці і ёй хапіла б 15 мінут, што заставаліся да раздачы, каб зрабіць гэта, дакладней кажучы, каб даліць у суп вады. Але па тэхналогіі крупы варацца ў падсоленай вадзе да паўгатоўнасці, а пасля дабаўляюцца гарачае малако (!), соль, цукар, і суп запраўляецца сметанковым маслам.

Так, гэта дома для ўласнага дзіцяці — усё смачнейшае, а тут чужыя няхай ядуць тое, што ім пападуць. Крыўдна, паколькі дзеці на выдаткаваную суму маглі б харчавацца смачней. Эканомія дзяржаўных сродкаў (сродкаў арганізацый, бацькоў) ідзе ва ўласную кішэню асобных работнікаў аздараўленчага лагера. Колькі можна зэканоміць за змену, за лета?

**Валянціна ЛЮБЕЦКАЯ, галоўны кантралёр-рэвізор па Бярэзінскім раёне КРУ МФ РБ па Мінскай вобласці.**

### Ад рэдакцыі

Сезон адпачынку ў аздараўленчых лагерах вось-вось скончыцца, дзеці пойдуць у школу. Але ж у будучым годзе тая ж "Папараць-кветка" зноў адчыніць свае дзверы, і зноў ад дзяцей будуць хаваць прадукты. Бо мясцовае начальства свядома закрыла вочы на гэтае злачынства. Таму мы і надрукавалі пісьмо В.Любецкай. Спадзяёмся, факты, прыведзеныя ў ім, замаўчаць не ўдасца і вінаватыя будуць пакараны.

## Замуж только по любви...

Спросите у современных девушек, каким должен быть молодой человек, с которым она готова пойти по жизни. И многие ответят следующее: "Это будет высокий, красивый парень из состоятельной семьи. У него должна быть непременно красивая машина, толстый кошелек и шикарная квартира. При этом мы можем не испытывать абсолютно никаких чувств друг к другу. Ведь самое главное — это его деньги". Но не всегда получается именно так. В третьем тысячелетии еще, слава Богу, остались такие девушки, которые выходят замуж только по любви.

Пожениться герои моей статьи решили втайне от родителей. Лена и Паша подали заявление в ЗАГС, а родителям сообщили о своих намерениях за 2 дня до свадьбы, когда, по сути дела, уже ничего нельзя было изменить.

"Вы сошли с ума! — это были первые слова Пашиной мамы, — вспоминает Лена. — За два дня нельзя подготовить свадьбу, позвать гостей, заказать свадебное платье, кольца. Такое бывает только раз в жизни, поэтому необходимо все сделать соответствующим образом".

Действительно, такое бывает только раз в жизни. Но, к сожалению, браки очень часто заключаются по холодному расчету, а не по горячей любви. Какая девушка согласится в XXI веке быть на своей собственной свадьбе не в подвенечном платье, поехать в ЗАГС на троллейбусе, обменяться с любимым человеком не золотыми, а серебряными обручальными кольцами — и все это из-за финансовых проблем. А что, по-вашему, так вскружило головы этим молодым людям? Конечно любовь. То самое чувство, которое не давало покоя поэтам на протяжении многих веков, бередило сердца не одного поколения людей. Однако и в новом веке в этом сложном и противоречивом мире все еще царит любовь.

— Какие воспоминания остались у вас о свадьбе?

— Несмотря на то, что нас пришли поздравить только двое наших друзей (они были свидетелями), мы с Леной чувствовали себя самыми счастливыми на свете.

"Какой ужас!" — скажете вы.

— А мы, например, не видим здесь абсолютно ничего плохого. Вы только посмотрите, какой удивительный парадокс получается: мы живем уже в XXI веке, а у нас на свадьбе не было даже фотоаппарата, — говорит Паша.

— Откуда такая спешка? Ведь можно было последовать совету родителей: немного подождать, но зато сделать красивую свадьбу.

— А кому нужна эта мишура, роскошные наряды? — пожимает плечами Лена, — это все привычки богатых, а меня никогда не притягивали деньги. Возможно, это покажется смешным, но то, что я сейчас скажу, правда, и от нее никуда не денешься: за деньги нельзя купить никакие чувства. Пусть в этом мире все покупается и продается, но только не любовь, не счастье, не доверие.

— Что говорили ваши друзья, когда узнали о том, что вы хотите пожениться?

— Мои подруги не могут в это поверить до сих пор. Мне ведь еще только 18, а Паше — 21 год. У нас нет своей собственной квартиры. На свадьбу нам подарили только комплект постельного белья и ковер... — смеется Лена. — Пусть этого очень мало, но все начинают с нуля. Я знаю, что мои подруги меня осуждают и вряд ли смогут когда-нибудь понять. Они мечтают, как и многие девушки, выйти замуж за деньги, а не за любимого человека. А жаль.

**Марина ТЕРЕЩЕНКО.**

## Добра, што настаўнікі думаюць інакш

Пад такой назвай мы прачыталі ў "Народнай волі" ад 7 жніўня (№143) 2001 г. інфармацыю Паўла Мажэйкі аб тым, што "ў сярэдняй школе №2 гарадскога пасёлка Радунь Воранаўскага раёна настаўнікі пры атрыманні адпускных грошай павінны адказаць на пытанне анкеты "За каго вы будзеце галасаваць на прэзідэнцкіх выбарах?". Пра гэта БелаПАН 3 жніўня паведаміў Іван Фясенка, мясцовы краязнаўца, настаўнік адной з воранаўскіх школ.

На нашу думку, ідэя анкетавання з'яўляецца "захвораннем на халеру" ініцыятараў анкетавання. Хіба магчыма прыцiснуць настаўніка анкетай? Мы, настаўнікі гарадоў, гарадскіх пасёлкаў, вёсак, прыцiснуты моцна смехатворным акладам. Вось гэта ціск! На выжыванне! Таму "анкетны ціск" — гэта тая саломінка, за якую хапаецца той, хто топіцца.

Мы рады за Вас, шаноўныя калегі-настаўнікі, што, нягледзячы на пазначанае Вамі вядомае ўсім прозвішча, Вы ўсё ж думаеце інакш.

Вы думаеце інакш, а значыць, у дзень выбараў прэзідэнта за шырмай, у кабіне, адзін на адзін з бюлетэнем, Вы пазначыце другое прозвішча.

**Настаўнікі агульнаадукацыйных школ г.Мазыра і Мазырскага раёна.**
*(Усяго сем прозвішчаў.)*

## З 1 па 30 верасня студэнты ездзяць бясплатна

Згодна з указам Лукашэнкі, з 1 па 30 верасня гэтага года студэнтам вышэйшых навучальных устаноў і навучэнцам сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў і прафесійна-тэхнічных вучылішчаў дзённай формы навучання прадастаўлена права бясплатнага праезду на аўтобусах рэгулярных прыгарадных і міжгародніх маршрутаў, на прыгарадных цягніках, у агульных і плацкартных вагонах цягнікоў унутрырэспубліканскіх зносін па пятніцах, суботах, нядзелях і панядзелках.

Як адзначаецца ў афіцыйным каментарыі да ўказа, мэта яго прыняцця — "стварэнне ўмоў для аказання дапамогі ва ўборцы ўраджаю 2001 года", паколькі многія студэнты і навучэнцы, перш за ўсё з сельскай мясцовасці, "будуць сумяшчаць вучобу з аказаннем па выхадных днях дапамогі бацькам і сваякам ва ўборцы ўраджаю і правядзенні іншых сельскагаспадарчых работ".

**Наталля КУЛАГІНА.**

# “МОЖА, Я Ў НЕЧЫМ І ПАПРАКАЮ СВОЙ НАРОД”

## Вядомы беларускі паэт і публіцыст Генадзь Бураўкін адзначыў сваё 65-годдзе. Віншуем!

***Напярэдадні значнай падзеі ў сваім жыцці ён ахвотна згадзіўся адказаць на пытанні карэспандэнта “Народнай волі”.***

**— З якім настроем сустракаеце юбілей, Генадзь Мікалаевіч?**

— Адным словам не адкажаш. Куды прыемней было адзначаць 50 гадоў, 60. 65 — ужо вялікая дата.

**— Тым не менш, калі вырашыла пагаварыць з Вамі, доўга не магла Вас знайсці. Напэўна, у паэта Бураўкіна шалёны расклад жыцця?**

— Я лічу, што яшчэ не стары. Адчуваю, што такія-сякія сілы ёсць, ва ўсялякім разе — творчыя. Стараюся іх прымяняць і для журналістыкі, і для маёй любімай паэзіі.

**— Падставы для аптымізму — жыццёвага, прафесійнага — ёсць?**

— Я больш аптыміст, чым песіміст. Але, на жаль, мне ўсё цяжэй і цяжэй ім заставацца. Таму што тое, што я бачу вакол сябе, тое, што, на жаль, прадбачу, часцей за ўсё звязана з трывогай і сумненнямі.

Вельмі хацелася б, каб тыя надзеі, на якія і я сам, і мае блізкія, і мая Беларусь маюць права, спраўдзіліся ў самы бліжэйшы час. Пры мне, з маім удзелам, каб я яшчэ змог парадавацца за Радзіму.

**— Не выключана, што ўжо пасля 9 верасня мы адчуем гэтыя змены...**

— Можа быць... Я нават не буду крыўдаваць на лёс, калі яны наступяць пасля другога туру прэзідэнцкіх выбараў.

**— А якія Вашыя прагнозы наконт выбараў?**

— Прагназаваць можна тады, калі ёсць дакладная інфармацыя з усіх бакоў. Тады пачынаеш яе ўзважваць і можаш на нешта ўпэўнена спасылацца. І, па-другое, калі ёсць правілы, якіх прытрымліваюцца абодва бакі, калі ёсць закон, абавязковы для ўсіх, незалежна ад таго, ці ты прэзідэнт, ці сантэхнік, ці прафесар... Спадзяюся адно на розум і на вопыт народа.

**— Аднак сёння неаднойчы Вашыя калегі казалі аб сваім расчараванні беларускім народам...**

— На жаль, дужа многа сярод нашых землякоў-беларусаў людзей вельмі даверлівых, наіўных, а яшчэ больш — нецвярозых у самым прамым сэнсе гэтага слова. І калі ім даюць права і нават іх абавязваюць нешта вырашаць ды пры гэтым падказваюць, як гэта рабіць, то часу, каб ва ўсім разабрацца, у іх часцей за ўсё не хапае. Колькі сёння людзей, якія даверліва галасавалі ў 94-м годзе, кусаюць сябе за локці, але нічога ўжо не вернеш... Праўда, зараз з'яўляецца магчымасць нешта вярнуць. Калі ж ужо і на гэты раз будзе зроблена трагічная памылка, то, сапраўды, тады я не ведаю, як і калі з'явіцца магчымасць па-разумнаму адnавіць Беларусь...

А расчараваўся ці не расчараваўся... Можа, я ў нечым і папракаю свой народ, бо лічу, што нельга спяваць яму толькі хваласпевы. Беларусы розныя. Колькі п'янчуг, колькі людзей, якія, не пабываўшы нават у суседняй Польшчы, Літве, крычаць, што мы самыя лепшыя і нам больш нічога не трэба. Я думаю, Беларусі сёння сорамна за некаторых сваіх “дзяцей”, якія пра яе не думаюць, якія так танна згодны яе прадаць.

**— Можа, якраз сённяшняя сітуацыя ў Беларусі і спрыяе сапраўднаму таленту ствараць шэдэўры. Самыя лепшыя, яскравыя творы сусветнай літаратуры з'яўляліся ў часы барацьбы, войн, дыктату. Вам зараз лягчэй пішацца?**

— Бясспрэчна, азарэнні, літаратурныя адкрыцці, і не толькі літаратурныя, часцей нараджаюцца на зломах часу. Вы думаеце, не ў хвіліну горычы геніяльны Лермантаў напісаў “Прощай, немытая Расія”? А Някрасаў? Яму было так балюча і крыўдна за тое, што ён бачыў вакол сябе ў любімай Расіі, што нарадзіліся радкі: “Люди холопского звания сущие псы иногда. Чем тяжелей наказание, тем им милей господа”. І тое, што вырвалася з яго душы, аказалася формулай не толькі някрасаўскага часу. Я думаю, лепшага вызначэння таго, што мы перажываем сёння, цяжка знайсці.

А як мне працуецца? Сябе цяжка ацэньваць... Я не з ліку самых пладавітых літаратараў, у мяне кніжак менш, чым у многіх маіх сяброў. Я не ўмею многа пісаць. Але якраз апошнім часам, можа, з-за таго, што вырваўся на свабоду з бюракратычных кабінетаў, пазбавіўся нейкіх чыноўніцкіх абавязкаў, я сапраўды даволі часта выступаю з вершамі і публіцыстыкай. Мне пішацца, і, здаецца, атрымоўваецца. Нядаўна напісаў паэму, называецца “Узнясенне”. Гэта паэма пра Францішка Багушэвіча, пра яго ўзнясенне ў апошнія дні жыцця. У нейкім сэнсе — гэта і развага аб тым, што такое народ, што такое Беларусь, якое месца паэта ў гісторыі і жыцці, ці мае права такая асоба, як Багушэвіч, не толькі прызнавацца ў любові да Беларусі, але і “судзіць” яе, свой народ.

У мяне ляжыць напісаная і складзеная кніжка “Жураўліная пара”... Але хто ведае, калі і дзе яна будзе выдадзена? У наш час выдавацца вельмі і вельмі няпроста. І дужа многа напаўзло адстаўных палітрукоў на нашу зямлю, якія дужа прывольна сябе адчуваюць у высокіх кабінетах улады.

**— Вам не сумна ўсведамляць, што цяперашняя ўлада пасварыла нават пісьменнікаў?**

— Я не лічу, што яна нас пасварыла. Я нават удзячны гэтаму перыяду ў жыцці, які пачаўся з перабудовы, бо ён “высвяціў” людзей. Калі раней, можа, тойсёй хаваўся, то цяпер вымушаны заняць пэўную пазіцыю. Менавіта цяпер стала ясна, што ў каго было глыбока ў душы, аб чым сапраўды шчыра думалася. І я шчаслівы чалавек, бо ўсе мае даўнія сябры са мною і сёння. І не толькі пісьменнікі, а і мастакі, і артысты, і аднакурснікі. Улада нас не развяла. Улада дапамагла разысціся з тымі, хто разлічваў на нейкую выгаду ад сяброўства. А вось тое, што да ўлады хінуцца відавочна не самыя таленавітыя, хай аб гэтым улада і думае.

**— Вы маглі б назваць найбольш шчаслівы перыяд свайго жыцця?**

— У мяне, здаецца, не было так — цалкам шчаслівы ці цалкам нешчаслівы перыяд. Цяпер, канешне, як вялікае шчасце ўспамінаю сваё юнацтва, хаця было яно галоднае і беднае. З радасцю ўспамінаю работу ў “Маладосці”. Я працаваў у выдатным калектыве, і друкавалі мы рэчы, якія сталі гонарам нашай літаратуры. У нас пачыналася і праз нас ішла ўся маладая літаратура.

Мне дарагі і вельмі цяжкі перыяд, калі ствapалася нацыянальная праграма Беларускага тэлебачання. Я быў яе кіраўніком, і сёння мне прыемна прыгадваць, што наша тэлебачанне лічылася адным з лепшых у Савецкім Саюзе. Я ніколі не закрэсліваў савецкі перыяд у сваім жыцці і ніколі не казаў, што гэта быў поўны правал у гісторыі Беларусі, беларускай культуры і літаратуры. Было рознае...

Тое, што сёння робіцца на БТ, хай будзе на сумленні тых, хто там цяпер працуе. Але мне крыўдна, а часам проста сорамна за прафесійны ўзровень тэлебачання, за той абсалютна немагчымы ўзровень культуры, які на ім пануе. З тэлебачання зрабілі нястомную, надакучлівую і дробязную палітінфармацыйную малатарню.

**— Можа, потым тым, хто зрабіў, хопіць сапраўднай мужнасці пераадолець уласнае хамелеонства і пакаяцца... Вам, Генадзь Мікалаевіч, не хацелася, напрыклад, забыцца на тыя часы, калі Вы стварылі паэму “Ленін думае пра Беларусь”?**

— Я гэтай паэмы не саромеюся і ніколі ад яе не адмаўляюся. Тады, калі я яе пісаў, я так думаў, у гэта верыў. І потым — гэтая паэма пра Беларусь, а не пра Леніна. Дарэчы, выдатнейшы рускі паэт Ігар Шклярэўскі, калі перакладаў паэму на рускую мову, зрабіў мудрэй, чым я, назваўшы яе “Чатыры думы пра Беларусь”.

У маіх паперах захавалася ацэнка гэтай паэмы Майсея Сяднёва — чалавека, якога, спадзяюся, ніхто не папракне ў ідэалагічнай прадузятасці пэўнага кшталту. Ён любіў гэтую паэму і, калі вакол яе пайшлі палітычныя спекуляцыі, сказаў: калі б Ленін сапраўды быў такі, як яго малявалі камуністы, ён павінен быў думаць пра Беларусь так, як напісана ў Бураўкіна. Ды акрамя ўсяго, некаторыя рэчы пра Беларусь, калі б там не было імя Леніна, мне б сказаць тады не дазволілі.

**— Прыемна ўсведамляць сябе жывым класікам — Вас жа вывучаюць у школе?**

— Прыемна.

**— Сёння, калі ствараюцца школьныя праграмы, з Вамі раяцца, якія вершы выбіраць і прапаноўваць дзецям?**

— Не раіліся раней і не раяцца зараз. У нейкім сэнсе гэта справядліва.

Для школы часта падбіраюцца творы не абавязкова па ўзроўні майстэрства, часцей — па тэматыцы. Не хачу зусім адкідваць такі падыход, гэта ўрэшце справа педагогікі. Адзінае, што крыўдна, калі ў падручніках сустракаю бездапаможныя ў літаратурным сэнсе рэчы таму, што яны на патрэбную тэму.

**— А жывому класіку грошай на жыццё хапае?**

— Што такое хапае—не хапае? Бамжам на жыццё хапае пустых бутэлек. Калі б у мяне былі грошы для такога жыцця, якое давала б магчымасць нармальна есці, нармальна апранацца і спакойна чытаць кнігі і пісаць вершы, я лічыў бы, што больш нічога і не трэба. Але пенсія, якую атрымліваю, такога не гарантуе. Яна — “беларуская”.

**— Таму вядомы паэт пайшоў працаваць у “Беларускі час” шараговым журналістам?**

— Я б з большым задавальненнем тыя сілы, якія аддаю журналістыцы, публіцыстыцы, уклаў бы ў літаратурную творчасць. Хацеў бы, напрыклад, і нават адчуваю абавязак пісаць мемуары. Я сустракаўся з многімі выдатнейшымі людзьмі мінулага стагоддзя, прымаў удзел у сапраўды гістарычных падзеях. Ганаруся, што мае сябры — касманаўты Пятро Клімук і Уладзімір Кавалёнак. Ганаруся, што мне па-беларуску, дарэчы, без адзінай памылкі, пісаў пісьмы і нават дасылаў свае вершы Кірыл Трафімавіч Мазураў. Для многіх ён — толькі высокі чыноўнік, наменклатуршчык. Але ён яшчэ быў цікавым чалавекам, нядрэнным беларусам. Мне ёсць што расказаць пра Пятра Міронавіча Машэрава. Шкада, што сёння розныя папулісты і кан'юнктуршчыкі спекулююць ягоным, сапраўды дарагім для беларусаў імем. Ён не такі быў, якім многія хочуць яго зрабіць. На мой погляд, ён быў лепшы, глыбейшы, цікавейшы і больш нацыянальна свядомы.

**— Тое, што сённяшняя ўлада не паважае народных пісьменнікаў, якія ёй не падбрэхваюць, нікога не здзіўляе. Але, акрамя ўсяго іншага, у Вас ёсць ранг Надзвычайнага і Паўнамоцнага пасла, Вы чатыры гады прадстаўлялі Беларусь у ААН...**

— Мы такая краіна, і — відаць, адзіная ў свеце — дзе высокі дыпламатычны ранг і былы адказны статус нічога не значаць пры вызначэнні пенсіі. Усё залежыць, напэўна, ад таго, як ты ставішся да сённяшняга ўладара.

**— А Вам не прапаноўвалі супрацоўніцтва з уладай?**

— Не. Таму, што ведалі: проста так, без умоў, працаваць да іх я не пайду. А ўмовы мае для іх будуць непрымальныя.

**— Хатнія таксама прытрымліваюцца такіх поглядаў, як Вы?**

— Ва ўсялякім разе я рады, што мае жонка і дзеці мяне разумеюць і ў нас з імі адна пазіцыя па галоўных пытаннях жыцця.

**— Самая запаветная мара ў паэта Бураўкіна ёсць?**

— Спадзяюся, што дапішу сваю наступную кніжку “Пісьмы да запатрабавання”, над якою пачаў працаваць. Хачу паспець яшчэ пры сваім зямным жыцці паслаць пісьмы блізкім мне людзям, роднай сваёй зямлі. І спадзяюся, што пісьмы гэтыя дойдуць і некалі іх запатрабуюць...

**Марыя ЭЙСМАНТ.**



*Генадзь Бураўкін (справа) з Рыгорам Барадуліным.*

Фота У. КАРМІЛКІНА.



## ЭВРИКА!

### Солнечные лучи защищают от рака простаты

Солнечные лучи защищают от рака предстательной железы. Эти данные, полученные при обследовании пациентов больницы Северного Стаффордшира, вызвали большой интерес британских и американских урологов. Открывается совершенно новое направление исследований в области профилактики и лечения этой широко распространенной злокачественной опухоли.

### Мужчинам вредно ходить по магазинам

Хождение по магазинам плохо сказывается на здоровье мужчин. Обследование жителей Лондона показало, что ожидание в очередях вызывает у каждого пятого англичанина ярость и сопровождается повышением артериального давления. О результатах этого исследования будет рассказано в сентябре в телепередаче ВВС.

### Капля никотина заменит сигарету

Американские медики предложили для борьбы с курением использовать никотиновые капли. Добавление этих капель в напитки поможет отказаться от сигареты в ситуациях, когда соблазн закурить наибольший — во время перерыва на кофе или в пивном баре. По мнению экспертов, капли имеют существенные преимущества перед жвачками и пластырем с никотином.

### Случайно обнаружили средство для лечения мигрени

Немецкие косметологи случайно обнаружили эффективное средство для лечения мигрени. Они заметили, что у пациентов, которым для разглаживания морщин делали уколы токсина ботулизма, исчезали головные боли. Теперь медики надеются разработать на основе токсина ботулизма таблетки для лечения хронических головных болей.

### Человеческие органы будут выращивать из кожи

Сенсационное открытие канадских врачей делает попытки клонирования людей в медицинских целях бессмысленными. Если на людях подтвердятся опыты, успешно проведенные на млекопитающих, любые клетки из органов человека будут выращивать из его же собственной кожи.

Ученым из монреальского университета удалось выделить из кожи взрослой мыши зародышевые клетки, из которых можно вырастить абсолютно любые клетки, включая нервные и клетки головного мозга. Вызвав в лаборатории процесс деления этих клеток, исследователи получили необходимое количество для выращивания из них новых тканей. Пока еще экспериментов с человеческими клетками не проводилось, но специалисты убеждены, что никаких биологических препятствий для успешного результата нет.

Еще раньше ученые брали зародышевые клетки из головного мозга мышей с тем, чтобы, вырастив их, заменить клетки, поврежденные болезнями Альцгеймера или Паркинсона. Во время опытов было обнаружено, что из зародышевых клеток мозга можно вырастить клетку любого органа. Вскоре выяснилось, что и из клеток кожи можно вырастить любую ткань. Все зависит от того, куда клетка будет пересажена: всего за 4 дня одна и та же клетка в головном мозгу становится нервной клеткой, а в мышечной ткани — мышечной.

**Нина БЕЛЕНИЦКАЯ.**

### Табак калечит и... лечит

Как выяснилось в ходе исследования, проведенного китайскими учеными во главе с профессором Ламом, в 1998 году 33% мужчин Гонконга в возрасте от 35 до 69 лет умерли от табакокурения. Исследователи, правда, отмечают, что сигаретный бум случился в Гонконге на 20 лет раньше, чем в материковом Китае. “Несмотря на это опоздание, мы предсказываем резкое увеличение смертности, вызванной употреблением сигарет в Китае в течение ближайших 50 лет”, — пишут ученые в “Британском медицинском журнале”.

Впрочем, китайцам рано отчаиваться. Во-первых, мужчины могут еще встать на путь истинный, а во-вторых, табак, оказывается, можно использовать и в более благородных целях. Ученые Калифорнии сообщили недавно о том, что они выращивают его для того, чтобы на его основе разработать вакцину, предотвращающую рост раковых клеток и ряд других тяжелых заболеваний. Пока с табаком экспериментируют только в лабораториях, но американцы убеждены, что у него огромные созидательные возможности.

Как выяснили американские ученые, побудительные причины курения у мужчин и женщин совершенно разные. Так, мужчины курят тогда, когда они злятся, в то время как прекрасная половина человечества затягивается намного чаще в незабываемые минуты счастья. Эти выводы были сделаны после того, как ученые наблюдали в течение 2 суток за состоянием 25 женщин и 35 мужчин. Каждые 20 минут они измеряли у них кровяное давление, фиксировали изменения настроения и пытались соотнести все это с частотой употребления сигарет. В результате получилось, что и мужчины и женщины курили намного чаще в подавленном и агрессивном настроении, но мужчины все же опережали женщин по числу бычков в пепельнице. Аналогичная ситуация только в пользу дам складывалась и тогда, когда настроение у мужчин и женщин было близкое к эйфории — пустых пачек был больше у женщин. Ученые остались довольны проведенным экспериментом, поскольку полученные данные, заявляют они, помогут разработать специальные программы аутотренинга и контроля за своим настроением, чтобы сократить потребление никотина.

Кстати, у тех, кто уменьшил сигаретную дозу ровно на половину, наблюдалось вскоре позитивное снижение уровня холестерина, который может являться причиной сердечных заболеваний. В общем, да здравствует Минздрав!

**Евгения СЛУЦКАЯ.**

## ШАШКІ

### Трэці класіфікацыйны

Працягваем класіфікацыйны конкурс-3. Сёння прапануем пятае заданне:



**Белыя:** d4, h2, h4 (3).

**Чорныя:** дамка h6, простая f6 (2).

**Ход белых, нічыя** (два ачкі).

Паўтараем заданні **чацвёртага туру:**

**№4. Белыя:** дамка f4, простыя e3, f2, g5 (4).

**Чорныя:** b6, h2, h6 (3).

**Белыя пачынаюць і выйграюць** (два ачкі).

**№4-а. Белыя:** дамкі a1, c3, простыя b2, f6 (4).

**Чорныя:** дамкі e1, g3, h8, простая e3 (4).

Таксама **выйгрыш белых пры іх першым ходзе** (тры ачкі).

Тым, хто справіцца з імі, будуць залічаны і аўтарскія рашэнні заданняў першых трох тураў.

Тэрмін для адказаў — два тыдні. Чакаем іх па адрасе: **220030, г.Мінск, вул.Энгельса, 34а, рэдакцыя газеты “Народная воля”, “Шашкі”.**

Нагадваем умовы конкурсу: першыя пяць прызёраў выйграюць бясплатныя падпіскі на “Народную волю” на I паўгоддзе 2002 года. Таксама заахвочваюцца шостае—дзесятае месцы кнігамі “Шашачныя арабескі” і “Завочныя шашкі ў Беларусі”.

Норма другога разраду па шашках — рашыць усе заданні, трэцяга — набраць 67 працэнтаў ачкоў.

Усяго будзе 12 тураў.

Зычым поспехаў!

### “Зіянне зорак-2001”

У пасёлку Чырвоны Бераг Жлобінскага р-на на працягу чатырох дзён доўжыўся рэспубліканскі турнір па шашках-64 сярод юнакоў “Зіянне зорак-2001”.

Як паведаміў арганізатар спаборніцтваў і наш карэспандэнт Аляксандр Іванькоў, удзельнік конкурсаў “Народнай волі” вучань мясцовай сярэдняй школы Іван Багданаў даволі пасьпяхова выступіў у турніры і правёў супраць Аляксандра Барысевіча (Бабруйск) нядрэнную камбінацыю ў наступнай пазіцыі:

**Белыя:** a5, d2, e3, f2, f4, g3, h4 (7).

**Чорныя:** a3, c5, c7, e7, f6, h6 (6).

1.dc3 cb4. Далей рашэнне пашукайце самастойна. Таксама чакаем вашых рэзюме.

### Эцюды майстроў

Мінчанін Гары Далідовіч і Яўген Кандрачэнка з Гомеля — знакамітыя шашысты. Першы — майстар спорту па шашачнай кампазіцыі, быў чэмпіёнам СССР у раздзеле задач-100. Другі — майстар спорту па гульні ў шашкі, адным словам, практык.

Але зараз вы пазнаёміцеся з іх творчасцю ў жанры... эцюдаў:

**№1.** (Г.Далідовіч). **Белыя:** дамкі f8, h2, простыя d6, e1 (4).

**Чорныя:** дамкі a3, g1, простая d4 (3).

**Выйгрыш.**

**№2.** (Я.Кандрачэнка). **Белыя:** c5, d6, e5, h2 (4).

**Чорныя:** дамкі a3, b8 (2).

**Нічыя.**

Імёны прыслаўшых правільныя рашэнні будуць апублікаваны.

### “Етвызь-2001”

У X турніры “Етвызь-2001” выступілі 54 удзельнікі: 15 майстроў спорту, 24 кандыдаты ў іх.

Перамаглі: У.Чарнышэвіч (Бабруйск), Д.Масайла (Віцебск) і Р.Протчанка (Гомель).

На тры ачкі адстаў ад іх карэспандэнт нашай рубрыкі “Шашкі” пінчанін Аляксандр Кагоцька, падзяліўшы 17—23-е месцы, што ў такой трывалай кампаніі можна аднесці да поспеху.

У юнакоў вызначыліся: Д.Масайла, А.Мечны і Н.Піцуха (два апошніх з Драгічына).

У дзяўчынак перамогу святкавалі Н.Місюта (Кобрын), А.Горагляд і М.Цыбулька (дзве апошнія з Пінска).

### “Грыўда-2001”

Гэты турнір быў прысвечаны памяці Мікалая Іванавіча Якуты — вядомага слонімскага шашыста, арганізатара шматлікіх спаборніцтваў, трэнера.

Турнір прайшоў у вёсцы Новыя Дзевяткавічы, дзе ён нарадзіўся.

“Сёлета спаборніцтвы былі рэкорднымі па колькасці ўдзельнікаў — 36 ігракоў, у тым ліку міжнародны гросмайстар, і 16 майстроў, — паведамляе наш пастаянны карэспандэнт Аляксандр Аніська — галоўны суддзя турніру. — Пераможцам стаў Васіль Навумік з Ваўкавыска — 14 ачкоў. На другім месцы Уладзімір Чарнышевіч (Бабруйск) — 13. Па 12 ачкоў набралі Сяргей Садоўскі (Гродна), Валеры Маркоўскі (Бабруйск), Андрэй Валюк (Гродна), Віталь Аніська (Слонім) і Раман Клімянок (Віцебск). У такім парадку размеркаваліся месцы па дадатковых паказчыках.

У бліцтурніры вельмі ўпэўненую перамогу атрымаў міжнародны гросмайстар А.Валюк.

**Мікалай ГРУШЭЎСКІ, майстар спорту.**

## ШАХМАТЫ

### Изящные маневры

Слон, как известно, тяжеловесен. Но только не на шахматной доске. В этюде российского мастера В.Евреинова на первый взгляд черным нетрудно достичь ничьей. Для этого им достаточно отдать слона за последнюю пешку противника. К тому же у черных есть контригра, связанная с угрозой продвижения пешки “h”. Тем не менее тонкой игрой, в которой решающую роль играет слон, белым удается добиться победы.

**В.Евреинов**



**Белые:** Крe3, Сb6, п. a4 (3).

**Черные:** Крh3, Сf6, пп. h4, h5, h6 (5).

**Белые начинают и выигрывают.**

Попробуйте найти правильный путь к выигрышу. Свои варианты присылайте по адресу: **220030, г.Минск, ул.Энгельса, 34а, редакция газеты “Народная воля”, “Шахматы”.**

### Из комбинационных партий

Поединок, который мы предлагаем вниманию читателей, состоялся на чемпионате России 1998 года. За доской встретились два молодых гроссмейстера, которые вели борьбу с “открытым забралом”. Острейшая борьба завершилась успехом белых, которые сумели лучше разобраться в комбинационных вариантах.

### М.Кобалия — О.Корнеев

### Дебют четырех коней

1.e4 e5 2.Кf3 Кc6 3.Кc3 Кf6 4.Сb5 Кd4 5.Сa4. Принципиальный ход, ведущий к сложной борьбе. К ничьей приводило 5.К:d4 ed 6.e5 dc 7.ef Ф:f6 8.dc с равными шансами. 5. ...Сc5 (точнее 5. ...c6) 6.К:e5 о-о 7.Кd3 Сb6 8.e5 Кe8 9.Кd5 d6 10.Кe3 (10.c3? Фh4!) 10. ...de 11.К:e5 Фg5 12.К5c4 f5 13.f4! Ф:f4 14.c3 Кe6 15.d4 Фh4+ 16.g3 Фd8 17.Кg2! f4!? (Заслуживало внимания 17. ...С:d4 18.cd b5 19.Сb3 (19.С:b5 Фd5!) 19. ...bc 20.С:c4 Крh8 с неясной позицией) 18.С:f4 К:f4 19.К:f4 Л:f4?! Соблазнительная жертва качества за атаку, в результате которой белый король вынуждается совершить опасный марш-бросок. 20.gf Фh4+ 21.Крd2 Ф:f4+ 22.Кe3 Кd6 23.Сb3+ Крh8 24.Фf1 Кe4+ 25.Крe2! (Но не 25.Крd3? ввиду 25. ...Кf2+ 26.Крd2 Сh3! или 26.Крe2 Сg4+ 27.К:g4 Лe8+ 28.Кe5 Л:e5+! 29.de Фe3x) 25. ...Сg4+ 26.К:g4 Фd2+ 27.Крf3 Кg5+ (27. ...Лe8+ 28.Крe4 Л:f1 29.Лa:f1 Фe2 30.Кe3) 28.Крg3 Кe4+ 29.Крh3! (Но не 29.Крh4? из-за 29. ...Фg5+ 30.Крh3 Фh5+ 31.Крg2 Фg4x) 29. ...h5 30.Лg1! hg+ 31.Л:g4 Кg5+ (Если 31. ...Кf2+, то 32.Ф:f2 Ф:f2 33.Лh4+ Ф:h4 34.Кр:h4) 32.Крh4! Вперед без страха и сомненья! 32. ...Ф:h2+ 33.Кр:g5 Фh6+ 34.Крf5 Лf8 35.Крe4 Фh7+ 36.Крe3 Л:f1 37.Л:f1 Фh3+ 38.Крd2! Хотя обе белые ладьи под ударом, ни одну из них взять нельзя ввиду мата по линии “h”. 38. ...g5 39.Лgg1 Крg7 40.Л:g5+ Крh6 41.Лgg1 Фh2+ 42.Крc1. **Черные сдались.** Они беззащитны от угроз, создаваемых скоординированными фигурами белых.

### Чемпионат Европы — в Минске!

В столице нашей страны не раз проходили крупные шахматные соревнования. Достаточно вспомнить чемпионаты СССР, которые Минск принимал четыре раза (высшая лига — 1979-й и 1987 г., первая лига — 1976-й и 1985-й) международные турниры в 1982-м, 1986-м, 1987-м, а с 1993 года они проводятся ежегодно. Но никогда еще в Беларуси не проводились официальные чемпионаты мира и Европы (только зональные турниры бывали). Дебют состоится с 3 по 9 октября. В эти дни Минск станет ареной борьбы сильнейших шахматисток Европы, которые разыграют титул чемпионки континента по быстрым шахматам. Ожидается участие примерно 100 сильнейших спортсменок, среди которых экс-чемпионка мира Майя Чибурданидзе (Грузия), Алиса Галлямова, Екатерина Ковалевская (Россия), Наталья Жукова (Украина), лучшие шахматистки из других европейских стран, сильнейшие белорусские спортсменки.

### С улыбкой! Шах и мат, сэр!

Проигрыш шахматной партии может вызвать депрессию и тяжелую реакцию не только у профессиональных шахматистов. Не всегда на высоте были и “сильные мира сего” — короли и другие титулованные особы. Случалось, когда дело заканчивалось далеко не шуточными последствиями. Так, сын Вильгельма Завоевателя Генрих, находясь при дворе французского короля, “неосторожно” выиграл все партии у наследного принца Людовика. Тот пришел в ярость и, схватив тяжелую шахматную доску, запустил ее в голову противника. А в ответ получил страшный удар и был тяжело ранен.

Рыцарь Ренард Мантаблан после проигрыша убил ударом шахматной доски своего партнера, племянника Карла Великого. Осторожную тактику избрал адъютант графа де Стайра, который был партнером своего патрона. Зная характер графа, он придумал способ, как преодолеть опасность. Перед тем как объявить ему мат, он быстро отбегал в самый далекий угол комнаты и лишь оттуда кричал: “Шах и мат, сэр!”.

## Четверг, 30 августа

### БТ

06.30 Доброе утро, Беларусь!
07.00 Новости.
07.10 Доброе утро, Беларусь!
08.05 **“Морская полиция”**. Сериал (Австралия).
09.00 Новости.
09.10 **“Маленькие Эйнштейны”.** Сериал для детей (Германия).
09.35 Мультиклуб.
10.00 Познавательная программа для детей “Войти в танец” (Международный Французский Канал).
10.20 “Эта барабанная рать”. Публицистический фильм. 2-я серия.
11.00 Новости.
11.15 **“Человек моря”.** Сериал (Аргентина).
12.10 Большой завтрак.
12.35 25-й кадр.
13.00 Новости.
13.15 Л.Куравлев в киноповести **“Живет такой парень”** (к/с им.М.Горького).
15.00 Новости(с сурдопереводом).
15.10 “SOS! КООАПу”. Мультфильм.
15.20 “Мой любимый зверь”. Док.сериал для детей (Международный Французский Канал).
15.30 **“Все на орбиту!”** Познавательный сериал для детей (Международный Французский Канал).
15.40 **“Маленькие Эйнштейны”.** Сериал для детей (Германия).
16.10 **“Приключения швейцарской семьи Робинсонов”.** Сериал (Франция).
17.05 **“Морская полиция”.** Сериал (Австралия).
18.00 Новости.
18.25 Зона Икс.
18.35 “Грант”. Стипендиаты Специального Фонда Президента Республики Беларусь по поддержке талантливой молодежи ансамбль трубачей “Интрада”, цимбалист Михаил Леончик.
18.55 Премьера телеэкрана. А.Цикало и Ю.Стоянов в лирической комедии **“Ландыш серебристый”** (Россия).
20.40 Колыбельная.
21.00 Панорама. Информационный канал.
21.50 “Москва — Минск”.
22.15 **“Человек моря”.** Сериал (Аргентина).
23.00 Спорт-курьер.
23.10 Сад мечты. Передача для дачников.
23.35 Королевская охота.
24.00 Новости.

### ОРТ

08.00, 11.00, 17.00, 22.30 Новости.
08.15 **“Земля любви”.** Телесериал.
09.15 **“Зимняя вишня”.** Телесериал.
10.15 “Человек и закон”.
10.45 “Вкусные истории”.
10.50 “Библиомания”.
14.50 **“Большая перемена”.** Телесериал.
16.00 “Большая стирка”.
17.20 “Сами с усами”.
17.50 **“Земля любви”.** Телесериал.
18.55 **“Зимняя вишня”.** Телесериал.
20.00 “Время”.
20.40 **“16-й отдел”.** Телесериал.
21.35 “Независимое расследование”. “Пожар на останкинской телебашне”.
22.55 “Формула власти”.
23.25 Комедия **“Шкура”.**
00.50 “Реальная музыка”.

### РТР

08.00 “Вести”.
08.15 “Два рояля”.
09.00 “Моя семья”.
10.00, 16.00, 19.00, 22.00 “Вести”.
10.30 “Фитиль”.
10.45 **“Санта-Барбара”.** Телесериал.
16.30 **“Вход в лабиринт”.** Телесериал.
18.00 **“Амазонка”.** Телесериал.
19.30, 22.30 “Вести-Москва”.
19.50 Психологический детектив **“Семь дней после убийства”.**
21.40 “Фитиль”.
2.40 Социальная мелодрама “Любовь”.
00.45 “Звуковая дорожка”.
01.40 Прогноз погоды.

### КУЛЬТУРА

07.05 Новости культуры.
07.20 После новостей...
07.40 **“Большая жизнь”.** Худ.фильм.
09.05 “Православие на телевидении”. “И живет монастырь”.
09.30 Культура вне границ.
09.55 “Исповедь перед учителем”. Док.фильм.
10.40 **“Блистательные Азераки”.** Телесериал.
11.30 Новости культуры.
11.40 “Рок”. Док.фильм Режиссер А.Учитель.
13.00 Страна Фестивалия.
13.30 Новости культуры.
13.45 “Ох, уж эти детки!”. Мультсериал.
14.05 Живое дерево ремесел.
14.15 Русские цари. “Александр Ш — царь-миротворец”. Часть 1-я.
15.00 Новости.
15.10 **“Морской лев Солти”.** Телесериал.
15.35 Танцевальный ансамбль “Парсонс”.
16.45 **“Блистательные Азераки”.** Телесериал.
17.30 Новости культуры.
17.40 “Исповедь перед учителем”. Док.фильм.
18.25 XX век. Избранное. “2-Стенберг-2”.
19.05 Вечерняя сказка.
19.10 “В порту”. Мультфильм.
19.30 Новости культуры.
19.50 **“Любовь на земле”.** Телесериал.
20.40 После новостей...
21.00 Вечер поэзии в музее А.Пушкина.
21.25 **“Опаленные страстью”.** Худ.фильм.
22.30 Джазофрения.
23.00 Новости культуры.

### НТВ

05.00, 06.00, 07.00 Сегодня утром.
05.15, 06.15, 07.15 Спорт, погода.
05.20, 06.25, 07.20 Криминал.
05.30, 06.35, 07.25, 14.45 Впрок.
05.40, 06.45, 07.40 Карданный вал.
05.45 Мультфильм.
07.50, 23.20 Сериал “Солдаты удачи”.
09.00, 11.00, 13.00, 15.00, 18.00, 21.00 Сегодня.
09.25, 21.50 Сериал “Поворот ключа”.
10.25 Квартирный вопрос.
11.30 Сериал “Мушкетеры двадцать лет спустя”.
13.30 Старый телевизор.
15.35, 18.30, 23.00 Криминал.
15.50 Сериал “Ее звали Никита”.
16.55 Сериал “Рожденный вором”.
19.05 Боевик “Черные береты”.

### TV-6

05.00, 06.00 День за днем.
05.45, 17.40, 22.40, 00.35 Дорожный патруль.
07.45, 20.35 Тушите свет.
08.00 Новости.
08.25 Игорь Ильинский в комедии **“Однажды летом”**
09.50 Телемагазин для минчан.
10.30 Сериал **“Тайная жизнь шпиона Пеньковского”.**
11.35 Сериал **“Следствие ведут знатоки”. Дело № 16.**
13.00 Телемагазин для минчан.
13.15 “Вы очевидец”.
14.00, 18.00, 20.00, 22.00 “Сегодня”.
14.35 Сериал **“Третья планета от Солнца”.**
15.05 “Нашествие- 2001”: группа “Смысловые галлюцинации”.
15.20 Сериал **“Приключения Шерлока Холмса”: “Последний вампир”.**
16.30, 18.45 Сериал **“На углу, у Патриарших”.**
20.45 Сериал **“Улицы разбитых фонарей”: “Целую. Ларин”.**
22.55 Стивен Болдуин в боевике **“Крутой полицейский”.**

### СТВ+RenTV

06.00 “Ползучее войско” Мультсериал.
06.30 “Кот по имени Ик” Мультсериал.
07.00 “Питер Пен” Мультсериал.
07.30 “Король Артур и рыцари без страха и упрека” Мультсериал.
08.00 Новости СНГ.
08.15 “Автопанорама”.
08.40 “Киноафиша Минска”.
08.50 “Виртуальный мир”.
09.00 Фантастический боевик **“Палачи 2”.**
11.10 “1/52” Спортивное обозрение.
11.30 “Случайный свидетель”.
12.00 Новости СТВ.
12.15 “Радио-точка”.
12.45 Клуб “Белый попугай”.
13.50 **“Убойная сила”** Телесериал.
15.00 Новости СТВ.
15.15 “Проспект-200”.
15.30 “Кот по имени Ик” Мультсериал.
16.00 “Питер Пен” Мультсериал.
16.30 “Король Артур и рыцари без страха и упрека” Мультсериал.
17.00 **“Чертенок”** Теленовелла.
18.00 Новости СТВ.
18.15 “Виртуальный мир”.
18.25 “Экзотика”.
18.40 “Автопанорама”.
19.00 “Тема дня”.
19.15 “Вечарница”.
19.30 Комедия **“Окно в Париж”.**
21.45 **“Убойная сила”** Телесериал.
23.00 “СТВ-24 часа”.
23.15 Кулинарные рецепты от ресторана “Лесной”.
23.30 Минск на перекрестке столетий.
23.45 Драма Лукино Висконти **“Гибель богов”.**


**Адрас рэдакцыі:**
220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: (017) 206-68-71.
Тэл./факс рэкламнага аддзела: 206-69-04.
E-mail : nv@irex.minsk.by
http://nv.promedia.minsk.by
**Індэкс 63222.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф СЯРЭДЗІЧ**





Рэгістрацыйнае пасведчанне №246. Нумар газеты надрукаваны з дыяпазітываў у ПП “Мэджык”. Адрас: г. Мінск, вул. Кнорына, 50. Падпісаны ў друк у 15.00. Фармат А-2. Тыраж: 42 710 экз. Заказ № 689.